І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Верасень-2 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## ХОЙНІКІ



стар. 2

# ХОЙНІКІ

***Хойнікі - горад у Гомельскай вобласці. Раённы цэнтр. Стаіць на рацэ Квеся. Насельніцтва горада складае каля 13,3 тысяч чалавек. Хойнікі — даўняе мястэчка гістарычнай Рэчыччыны (Панізоўя).***

Паводле пашыранага меркавання, тапонім "Хойнікі" ўтварыўся ад паняццяў «хвоя», «хваёвыя лясы». Такім чынам, гістарычная мясцовая форма назвы паселішча — Хво?йнікі або Хвайнікі?.

Першы пісьмовы ўспамін пра Хойнікі (пад назвай Хвойнічкі) як вёску Брагінскага графства Кіеўскага ваяводства датуецца 1512. У розныя часы мясцовасць знаходзілася ва ўладанні Вішнявецкіх, Шуйскіх, Прозараў.




У сярэдзіне XVI стагоддзя Хойнікі атрымалі статус мястэчка і ўвайшлі ў склад Рэчыцкага павета Менскага ваяводства. У гэты час на ўзбярэжжы ракі Квеся князі Вішнявецкія збудавалі драўляны замак для абароны паселішча ад нападаў з усходу (праіснаваў да канца XVIII стагоддзя). У сярэдзіне XVII стагоддзя мястэчка зрабілася цэнтрам воласці, тут праходзіў гандлёвы шлях Мазыр — Юравічы — Брагін — Любеч.

У 1705 на сродкі князя Шуйскага ў Хойніках збудавалі царкву. У 1763 замест састарэлага ў мястэчку ўзвялі новы будынак царквы. У канцы XVIII стагоддзя І. Прозар збудаваў тут палац.

У выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Хойнікі апынуліся ў складзе Расійскай імперыі. У 1863 у Хойніках збудавалі касцёл, аднак па здушэнні нацыянальна-вызвольнага паўстання расейскія ўлады перарабілі яго ў царкву Маскоўскага патрыярхату. У 1864 з мэтаю русіфікацыі краю ў мястэчку адкрылі народную вучэльню.

З уводам у эксплуатацыю лініі Васілевічы — Хойнікі (23.09.1911) пачала дзейнічаць чыгуначная станцыя.

1 студзеня 1919 згодна з пастановай І з'езду КП(б) Беларусі Хойнікі ўвайшлі ў склад Беларускай ССР, аднак 16 студзеня Масква адабрала мястэчка разам з іншымі этнічна беларускімі тэрыторыямі ў склад РСФСР. У снежні 1926 Хойнікі вярнулі БССР.

29 верасня 1938 паселішча атрымала афіцыйны статус пасёлку гарадскога тыпу. 10 кастрычніка 1967 Хойнікі атрымалі статус горада.

Са славутасцяў горада трэба адзначыць сядзібу Аўраамавых (канец XIX - пачатак XX ст.), і парк пры ёй. Таксама цікавай будзе новазбудаваная Пакроўская царква (1986) і старая забудова горада.

Хойнікі моцна пацярпелі ад аварыі на ЧАЭС. У памяць аб гэтым у горадзе стаіць помнік смутку.

Хойнікі - радзіма вядомага дзяржаўнага і вайсковага дзеяча ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай, удзельніка паўстання 1794 года Караля Прозара.




# У Магілёве будуць судзіць былых намеснікаў старшыні Гомельскага аблвыканкама

***У кастрычніку ў Магілёўскім абласным судзе пачнецца разгляд крымінальнай справы (у ёй 90 тамоў), па якой праходзяць былыя чыноўнікі — першы намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама і намеснік старшыні аблвыканкама. Як інфармуе БелаПАН, агулам па ёй праходзяць абвінавачванымі шасцёра чалавек: два згаданыя намеснікі старшыні аблвыканкама, сын аднаго з іх — дырэктар прыватнага прадпрыемства, і сямейная пара з Расіі — індывідуальны прадпрымальнік і яе муж, дырэктар прадпрыемства.***

Яшчэ адзін абвінавачваны — былы дырэктар холдынгу "Гомельская мяса-малочная кампанія". Летам 2015-га ён быў асуджаны ў Гомелі за карупцыйнае злачынства, не звязанае з гэтай крымінальнай справай.

Нагадаем, два намеснікі старшыні Гомельскага аблвыканкама былі затрыманыя ў траўні мінулага года па падазрэнні ва ўчыненні карупцыйных злачынстваў. Першы намеснік старшыні аблвыканкама абвінавачваецца ў перавышэнні ўлады або службовых паўнамоцтваў. Намеснік старшыні абвінавачваецца па аналагічным артыкуле, а таксама ў "дапамаганні ў злачынстве, махлярстве", у падбухторванні да ўчынення злачынства, перавышэнні ўлады, злоўжыванні ўладай.

.
*euroradio.fm*

# Гісторыя з Бярозак

***Цікавая гісторыя здарылася сення.***

Карацей з сябрам зьездзілі у Бярозкі(паселак каля Гомеля) на закупкі клавіатуры. Па дарозе туды пабачылі,як пакавалі цела ужо збітага пешахода, а вось па дарозе назад знайшлі непрытомную дзеўчыну на аўтобусным прыпынку. Сябра здуру спачатку вызваў ментов,потым хуткую. У хуткай хоць і прынялі вызов а,але ж канешне параілі прывесці да свядомасці. Калі ен падняў ей галову ,яна ачомалася , і распавяла ,што у яе мікраінсульты,удаленне добрякаснай пухліны глазнога яблыка,(шнару я так і не разглядзеў што яна губляе прытомнасць ужо другі раз за дзень,і увогуле з ей часта такое здараецца(таксама яна ужо ляжала у лякарні,ей там не спадабалася , і у яе есць накіраванне у Бараўляны). Міліцыя хутка падьехала,дзеўчына ужо прасіла цыгарэту, а потым стала ныць каб яе адпусцілі. Хуткая двойчы сварочвала не туды,- увесь гэты час дзеўчына прасілася дамой,(яна жыве там жа) дала свой адрас,сцебала міліцыянтаў пераказваючы ім свае хваробы і ныла.... Карат у мяне узніклі падазрэнні,якія я выказаў сябру, калі скорая нас знайшла , і мы з ім паехалі далей,- маўляў дзеўчына наркаманка, вось і не хоча у бальніцу(менавіта доктар дарэчы устроіў допыт ,правяраў зрэнкі ect). Здругоа боку ,калі я быў малы,маей маці аднойчы далу па галавке рабаўнік,так што у яе было страсэнне мозгу і амнезія(як далі не памятае). Яна сама выбралася з лесапаласы,даехала на тралейбусе а там яе палічылі пьяной. Плюс у я нядаўна (праўда не адзін) падазраваў адну знаемую дзяўчыну у ў стукацтве). Мараль,- якбы ты не "не праходзіў міма",не рабіў (квазі)добрыя справы усе роўна мучыцца "пакутамі сумлення згрызотамі душы")),бо калі я быў правы то тая дзеўчына папала ва усіх сэнсах слова(яе малады чалавек,якога яна вызвала на прыпынак, ні пра якія вобмаракі не чуў),калі не то я кончаны мізантроп, і наўрад ці чаго дамагуся у гэтым жыцці... Неяк так.




ЗЫ Дзеўчына працуе аніматарам... Кажа калі кепска,то адыходзіць пасідзіць у старонцы і зноў за станок. Цікава было б вызначыць,хто паверыць ва усю гэту гісторыю, а хто не.

.
*Зміцер Якаўцоў*

# Dead Autumn Breath. Заняпад «метал-сталіцы»

***Dead Autumn Breath прайшоў у Гомлі 26 верасьня з стылістычна вытрыманым складам гуртоў па трэшу і стоўнэру. Тры мясцовыя каманды (Kilem, Dog, Meat Head) і дзьве прыезджыя (R6M5 з Барысава і берасьцейцы Disane). Вечар суботы, месца: “Танка-бар Ангар”.***

Чаго я чакаў ад гэтага фэсту? Чакаў пацешыць душу атмасферай першароднага “дзьвіжу” з галоднай да металу публікай, чаго ўжо зусім ня знойдзеш у Менску. Прагнуў і новых адкрыцьцяў у плане гуртоў. Калі другое зьдзейсьнілася, то зь першым усё атрымалася ня так радасна.

Уражаньні на падыходзе да месца дзеяньня: салідны комплекс, разьмешчаны асобным будынкам на ціхай вуліцы амаль у цэнтры, і зародкі натоўпу стыльна апранутых маладых людзей (нездарма кажуць, што трэш цяпер у трэньдзе – вяртаецца мода на джуты з нашыўкамі і ўсе гэткія алдскульныя справы). Клуб у сутарэнным памяшканьні, па інтэр’еры – як доктар прапісаў. Утульны, бескампрамісна брутальны, бар уяўляе сабою нішто іншае як танк. Невялікі, чалавек на 100, калі адначасова на танцпляцы. Адпаведных габарытаў і сцэна, відавочна двайнога прызначэньня, бо па бакох яе, і так нешырокай, абсталяваныя месцы, мяркую, для гоў-гоў-дзяўчын. Барнае піва спачатку цешыць адэкватным цэньнікам, а потым засмучае фактам скісласьці і моцнай разбаўленасьці. Няўжо зусім сораму няма – паіць людзей такім паскудствам? З іншага боку, можна беззабаронна ставіцца кактэйль-шотамі, якія сумленна вырабляе спрытны бармэн. Што яшчэ па гэтай тэме – вялікая грымёрка, памерамі нават болей за танпляц, у ёй на сталах для музыкаў стаяць чаны плову і шмат бутэлек вады, а яшчэ там ёсьць сапраўдны настольны футбол – напэўна, каб здымаць стрэс перад выступам.

Датычна самага цікавага – музычнага складніку. У сувязі з “асаблівымі абставінамі” ролю мясцовай адкрывашкі выконвалі Meat Head. На іхным трэш-метале класічнай школы былі праверанымя характарыстыкі апарату і здольнасьці публікі: гуку, вядома, разгуляцца было няма дзе – да гэтага трэ было быць гатовым апрыёры. Тым ня меней, пачак здолелі вытрымаць болей-меней адэкватным. А публіка хуценька падцягвалася, адзін пузаты дзядзька са старту ўвайшоў ва ўгар і пачаў дзіка рубіцца, такія акалічнасьці давалі спадзеў на неблагую тусу. Як высьветлілася пазьней, патэнцыял аўдыторыі быў неўзабаве вычарпаны. Аўдыторыя склала каля 50 чалавек. Не зважаючы на колькасьць, якасьцю не ўзяла таксама. Наступныя Kilem, наваяўлены гурт вопытных гомельскіх музыкаў, таксама гукам і матэрыялам не расчараваў, але тут пачаўся масавы сыход людзей на вуліцу. Наверсе лаўкі і столікі – даволі ўтульная чылаут-зона на сьвежым паветры, чаму б не патусіць. Канцэрт ідзе? Не, ня чулі.




Адсюль і бярэцца выраз “падтрымліваць гурты”, які я так не люблю. Бо калі дастаткова таленавіты гурт не параджае попыт на свой музычны прадукт, тое самае і застаецца – здавольвацца хоць якой “падтрымкай”. Падтрымліваюць – людзей у цяжкія часы, а музычныя ансамблі трэба слухаць і каціраваць. Гурт-загадка Dog, лагатып якіх ёсьць інвертаваным словам “God” (Бог), не прысутны ў вашых інтэрнэтах і ня маючы запісаў, такім чынам і дастаўся вуху самых зацікаўленых тым вечарам. Сладжавае трыа, на пярэднім плане дзікі кантраст зь вельмі фарматнага гітарыста-вакаліста і басіста настолькі нефарматнага выгляду, што гэта ўспрымалася ўжо як своеасаблівая фішка. Матэрыял – спраўныя цягучы, а гітара настолькі тлустая, што сьмерць басовага апарату пасярэдзіне сэту апыну-

лася амаль незаўважанай. Несумненна буду рады наведаць новыя выступы хлопцаў і зычу посьпехаў!

R6M5, гурт братоў Танаянаў з Барысава, паўтарох гадоў ад роду, з багажом у міні-альбом і кавер-альбом, прадэманстравалі файны ўзровень, але кволую публіку разварушыць – задача была нялёгкая, нават хіты знакамітых монстраў металу праходзілі амаль што ва ўмовах "адкрытай рэпетыцыі". Вось так металарэзная сталь адпрацавала ўхаластую.

Disane зь Берасьця выступалі апошнімі і паводзіліся проста аніяк. Вакаліст заняў места гоў-гоў-дзяўчыны і, абапіраючыся на парэнчы, зь кіслай мінай выдаваў гукі ў мікрафон. Судзіць ня буду, магчыма, гэта пасавала агульнай атмасферы, але з іншага боку можна было займець профіт, крыху папрацаваўшы на камеру і атрымаўшы нядрэннае канцэртнае відэа. Бо цягам усяго канцэрту у танцпляцы вёў здымку адмысловы чалавек. Справядлівасьці дзеля адзначым спробы гэтага самага вакаліста разьвязаць слэм сваім прыкладам, а таксама ўзгадаем добры вакал гітарыста, што сустракаецца нячаста – дарма забілі на прывядзеньне другога мікрафону ў працоўны стан на адной зь песень. Ужо потым на курылцы хлопцы распавялі пра намер зьмены назвы і канцэпцыі — і ўжо на наступны дзень перайменаваліся ў Hippie Doom Squad і абвясьцілі stoner/hard blues сваім новым стылем.

А адначасна я ацэньваў пляцоўку на прыдатнасьць да іншых стыляў, каб, магчыма, пракаціць праз Гомель увесну той жа фолк-метал тур. Але вынік такі, што ў адрозьненьні ад трэшу пачкі болей насычаных інструментальнымі галасамі стыляў тут проста разваляцца, гурты кшталту Omut'a банальна ня ўмесьцяцца, а калі якія людзі і прыйдуць, то разьябуць той бар за такое піва. Гомель, дзе ж твая слава метал-сталіцы Беларусі?

P.S. Прыемна было нарэшце ўжывую пазнаёміцца з арганізатарам дзеі, Антонам, вядомым па праекту Samopromotion. Спадзяюся, улёт быў ня надта трагічны і вынікі зроблены слушныя. Таксама маю спадзеў, што гэта ўсё ж не пачатак канца для гомельскага андэграунду, а проста перыяд, які ад геаграфічнай сталіцы перадаецца іншым гарадам, і далей усё ж нешта будзе.

P.P.S. Было б крыўдна, калі б вы лічылі, што меркаваньне аб гомельскім андэграундзе складзена па адным гэтым фэсьце. Вялікі брат заўсёды сочыць. І прыкладам таму ранейшае.

*Ян Мачульскі*

- Усіх называй. Галілей быў?
- Не.
- А Марлі? Боб Марлі быў?
- Не. І Далі не было нават.
- Ну а Ленін?
- Ні Леніна, ні Ленана, ні Карла Лінэя.
- Дык а хто быў?
- Адны кіты і чарапахі.

## 9-класнік за згвалтаванне першакласніка ў Светлагорскім раёне атрымаў восем гадоў

***Жудаснае злачынства адбылося ў школьным туалеце.***

Суд Светлагорскага раёна абвясціў прыгавор былому вучню адной з сельскіх школ, пакараўшы падлетка 8 гадамі пазбаўлення волі за шакавальнае злачынства. 16-гадовага падлетка адправяць у выхаваўчую калонію, бо ён яшчэ не дасягнуў паўналецця.

Праўда, прысуд пакуль не ўступіў у законную сілу, а разгляд справы вялося ў закрытым рэжыме, распавялі kp.by ў прэсслужбе Гомельскага абласнога суда.

Раней паведамлялася, што справа была заведзена за гвалтоўныя дзеянні сэксуальнага характару ў дачыненні да заведама малалетняга.

У красавіку ў школьным туалеце, які знаходзіцца ў двары вясковай школы, тагачасны 15-гадовы 9-класнік здзекваўся з 8-гадовага першакласніка. Пра гэта стала вядома, калі хлопчык рашыўся расказаць аб тым, што здарылася бацькам. Дарэчы, гвалтаўнік атрымаў мінімальнае пакаранне, прадугледжанае артыкулам.

*Павел Міцкевіч, kp.by*


Чужыя дзеці.

# Кіроўца ў Рэчыцкім раёне збіў на машыне насмерць жонку, што ехала на ровары

***37-гадовы кіроўца «Пежо» ехаў па вуліцы Савецкай у вёсцы Заходы ў кірунку вёскі Восаў. Пры сустрэчным раз'ездзе ён збіў 35-гадовую веласіпедыстку, сваю жонку. Ад атрыманых траўмаў жанчына памерла на месцы аварыі.***

Паводле папярэдняй інфармацыі, кіроўца і веласіпедыстка ехалі па цэнтры праезнай часткі. Мужчына быў у стане алкагольнага ап'янення.

Раней ён неаднаразова пазбаўляўся права кіравання транспартнымі сродкамі за нецвярозую язду. У дачыненні да 37-гадовага кіроўцы заведзена крымінальная справа па ч.2 арт.317 (парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Падазраваны змешчаны ў ізалятар часова ўтрымання, паведамляе прэс-служба Следчага камітэта.

У сваю чаргу, ровар быў абсталяваны святлоадбіўнымі элементамі, вулічнае асвятленне працавала, адзначылі ў ДАІ Гомельскай вобласці.

*news.tut.by*

Конны паліцэйскі спыняе маленькую дзяўчынку на ровары.
- Табе Дзед Мароз падарыў гэта?
- Так, - адказала дзяўчынка.
- Добра, але скажы свайму Дзеду Марозу, каб на наступны год падарыў табе катафот да гэтага ровара, - сказаў паліцыянт і выпісаў ёй штраф на 5 базавых.
Дзяучынка падумала, і спытала:
- А каня вам таксама Дзед Мароз падарыў?
- А як жа ж!
- Ну, тады скажыце яму на наступны год, што чэлес у каня мусіць быць знізу, а не зверху.

# Жыхар Добрушскага раёна незаконна вёз у Расію 26 кароў

***Грузавы аўтамабіль «ДАФ» з буйной рагатай жывёлай затрымалі 22 верасня паблізу беларуска-расійскай мяжы гомельскія памежнікі сумесна з міліцыянерамі. У прычэпе грузавіка знаходзіліся 26 кароў.***

Як паведаміў прэс-сакратар Гомельскай пагранічнай групы Дзмітрый Уклейка, вадзіцель «ДАФ», 56-гадовы жыхар Добрушскага раёна, дакументаў на груз, які перавозіў, паказаць не змог. Падчас разбору было ўстаноўлена, што канцавым пунктам прызначэння грузу была Расійская Федэрацыя.

Буйная рагатая жывёла ва ўстаноўленым парадку канфіскаваная супрацоўнікамі УБЭЗ УУС Гомельскага аблвыканкама. Затрыманыя жывёлы ацэненыя больш чым у 165 млн рублёў.

*БелаПАН*

# Тры гады калоніі атрымаў жыхар Светлагорска за напад на таксіста

***22 верасня суд Светлагорскага раёна вынес прыгавор у дачыненні да 30-гадовага мясцовага жыхара, які ў маі 2015 года напаў з нажом на таксіста. Беспрацоўны раней не судзімы жыхар райцэнтра прыгавораны да чатырох гадоў пазбаўлення волі, у сувязі з амністыяй тэрмін адбыцця пакарання зменшаны на год.***

Як паведамляе Гомельскі абласны суд, жыхар Светлагорска абвінавачваўся ва ўчыненні асабліва злоснага хуліганства (частка 3 артыкула 339 КК). 25 мая ён, будучы ў стане алкагольнага ап'янення, сеў у таксі і абяцаў кіроўцу, што за праезд заплаціць сястра, якая чакае яго каля аднаго з дамоў Светлагорска.

Кіроўца таксі, калі прывёз пасажыра на месца, запатрабаваў аплаціць праезд. Сястры каля пад'езда не было, і пасажыр адправіўся за грашыма. Калі вярнуўся, сеў на заднюю сядзенне і папрасіў таксіста пачакаць дзяўчыну, а затым накінуўся на кіроўцу з нажом. Таксіст паспеў перахапіць нож і націснуць кнопку выкліку дыспетчара. Да яго на дапамогу прыбылі калегі, а затым і міліцыя.

*БелаПАН*

Мое сябра мяркуе, што ён надта разумны. Ён распавёў, што цыбуля - гэта адзіная гародніна, што прымушае чалавека плакаць. Але я мяркую, што ён проста ні разу не атрымліваў гарбузом у твар.

# Дзяржстандарт выявіў гельмінтаў у расійскіх кансервах «Печань траскі» што прадаваліся ў Гомелі

***Дзяржстандарт спыніў рэалізацыю рыбных кансерваў з паразітычнымі чарвякамі, паведамілі у прэс-службе ведамства.***

Гомельская абласная інспекцыя Дзяржстандарта падчас наглядных мерапрыемстваў, што праводзіліся ў гандлёвай сетцы Гомеля, выявіла неадпаведнасць рыбных кансерваў «Печань траскі натуральная гандлёвай маркі «Рыбоведовъ», якія там рэалізоўваліся, патрабаванням Даст 13272-2009 «Кансервы з печані рыб. Тэхнічныя ўмовы». Выраблена гэтая прадукцыя ТАА «Сампа» (Мурманск) на замову ТАА «Корса» (Калінінград). Імпарцёрам у Беларусі з'яўляецца ПП «Формула МК» (Мінск).

У выніку лабараторных выпрабаванняў адабраных узораў рыбных кансерваў была ўстаноўленая наяўнасць у іх нежыццяздольных палавaспелых гельмінтаў, скручаных у спіралі, і іх лічынкавых стадый. Выяўленыя таксама і стужкавы чарвяк (Cestoda), памер якога склаў 9 см. Пры гэтым ступень паражэння гельмінтамі склала 68%.

Акрамя гэтага, печань траскі не прайшла тэст і па іншых арганалептычных паказчыках: наяўнасць пабочнага паху акісленага тлушчу, нераўнамерны колер кавалкаў печані — ад светла-карычневага да цёмна-карычневага з зеленаватым адценнем замест ад крэмавага да шараватага, а таксама неўласцівы колер выдзеленага тлушчу — ад карычневага да цёмна-карычневага замест ад саламянага да жоўтага.

Па выніках наглядных мерапрыемстваў Дзяржстандарт выдаў ТАА «Еўрагандаль» і прыватнаму прадпрыемству «Формула МК» прадпісанні аб забароне ўвозу і абарачэння на тэрыторыі краіны гэтых рыбных кансерваў і аб адмене на іх дэкларацыі аб адпаведнасці.

За выпуск і рэалізацыю названай прадукцыі вінаватыя суб'екты гаспадарання таксама прыцягнутыя да адміністрацыйнай адказнасці.

У аддзеле дзяржаўнага нагляду і кантролю Дзяржстандарта праінфармавалі, што па выніках праверак харчовай прадукцыі ў 2015 годзе імпартныя рыбныя кансервы ўвайшлі ў лік найбольш праблемных груп. Абласнымі інспекцыямі ўстанаўліваліся неаднаразовыя неадпаведнасці гэтай прадукцыі патрабаванням стандартаў па якасных характарыстыках, а таксама па масе асноўнага прадукту ва ўпакоўцы. У гэтай сувязі Дзяржстандарт рэкамендуе імпарцёрам «займаць патрабавальную пазіцыю адносна прадукцыі, што закупляецца, пры заключэнні дагавораў і кантрактаў прадугледжваць яе адпаведнасць дзейным тэхнічным нарматыўным прававым актам: на рынак краіны павінны паступаць толькі бяспечныя і якасныя тавары».

*БелаПАН*

## На гомельскай мытні праз 7 блокаў цыгарэт і некалькіх бутэлек алкаголю канфіскавалі аўтобус

***Алкаголь з цыгарэтамі кіроўца схаваў у тайніку рэйсавага аўтобуса Кіеў—Рыга і паспрабаваў правезці іх праз мяжу.***

Здарэнне адбылося на пункце мытнага афармлення «Новая Гута»: кіроўца заявіў, што не перавозіць тавараў, якія неабходна дэклараваць. Тым не менш пры праверцы ў салоне аўтобуса за панэллю тэлевізара мытнікі знайшлі сем блокаў цыгарэт, а ў тэхналагічным люку — некалькі бутэлек спіртнога.

Цыгарэты і бутэлькі канфіскавалі і разам з імі — аўтобус коштам больш за 2,5 млрд рублёў, паведамілі TUT.BY у прэс-службе Гомельскай мытні.

*TUT.BY*

## Цэны на «чарніла» ў Гомелі ўпалі да 20 тыс. за 0,7 л

***Напоі ёсць на любы густ - клубнічны, чорных парэчак, агрэставы.***

Падарунак мясцовым п'яніцам зладзіў адзін з найбуйнейшых гомельскіх гіпермаркетаў. У той час як у большасці крамаў самае таннае пойла — мацаваныя пладова-ягадныя напоі — каштуюць у раёне 40 тысяч рублёў за бутэльку 0,7 літра, у гіпермаркеце з'явіліся прапановы па 19900 рублёў. За такую цану тут прадаюць прадукцыю Талачынскага кансервавага завода — фруктова-ягадныя сталовыя паўсалодкія віны.

Прычым, напоі ёсць на любы густ — клубнічны, чорных парэчак, агрэставы ды іншыя.

Нагадаем, Лукашэнка да 15 верасня запатрабаваў разгрузіць склады айчыннай алкагольнай прадукцыі і паставіць яе ў рознічны гандаль.

*Павел Міцкевіч, kp.by*

# НАРОЎЛЯ

***Нароўля - горад у Гомельскай вобласці, адміністрацыйны цэнтр Нараўлянскага раёну. Прыстань на правым беразе ракі Прыпяць. У 125 км ад Гомеля. Насельніцтва горада складае 8,5 тысяч чалавек.***

Вядомая з сярэдзіны XVIII ст. як мястэчка і каралеўшчына (каралеўскае ўладанне), уладаньне Аскеркаў. У 1750—1751 мясьціна зрабілася аб'ектам нападаў украінскіх гайдамакаў.

4 сакавіка 1918 Украінская Народная Рэспубліка абвясьціла Нароўлю сваёй тэрыторыяй (як і ўсю паўднёвую этнічную тэрыторыю беларусаў), пазьней 25 сакавіка тое ж самае зрабіла Беларуская Народная Рэспубліка. Тэрыторыя Палесься зрабілася прадметам перамоваў паміж БНР і УНР.

Пачынаючы з 3 кастрычніка 1971 году Нароўля мае статус горада.

У выніку аварыі на ЧАЭС у 1986 годзе горад апынуўся ў зоне радыёактыўнага забруджвання.



Адной з найбольш выдатных мясцін Нароўлі з'яўляецца Палацава-паркавы комплекс Горватаў. Пабудаваны ён быў у сярэдзіне XIX стагоддзя (дакладна год невядомы. Розныя крыніцы называюць 1850, 1859 і 1865 гг.). Стыль будынка можна азначыць як класіцызм таго часу. Зараз будынак адрозніваецца ад першапачатковага плану з-за таго, што быў у свой час перабудаваны пад школу інтэрнат.

Таксама, побач з палацам раскінуўся маляўнічы парк з розным аздабленнем, накшталт альтанак, фантанаў і г.д., некаторыя з якіх дайшлі і да нашых часоў. Парк быў закладзены у 1870 годзе.

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Верасень-2 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
***vk.com:*** gnavinkicom
***facebook.com:*** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA